# НАША СВАБОДА

№86/87 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

29 СНЕЖНЯ 2000 года
ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





# 2000-ы пайшоў!

Вось і падышоў да заканчэння апошні год дваццатага стагоддзя і ўсяго другога тысячагоддзя. Можа быць з-за сваёй праблемнасці ён мог дадаць мала прыемных момантаў у нашае з вамі жыццё. Але ён скончыўся, і аб ім застанецца толькі памяць. Добрая і дрэнная – у кожнага пасвойму.

А памятаеце, шаноўныя чытачы, колькі разнастайных падзеяў НАША СВАБОДА перажыла разам з вамі пачынаючы з дня нараджэння, з сярэдзіны лютага. Памятаеце «гарачую вясну» з БТРамі на сталічных вуліцах і сотнямі затрыманых і збітых, калі ўсур'ёз напужаная ўлада абвясціла вайну свайму народу.

Скон грамадска-палітычнага дыялога і вельмі жорсткая рэзалюцыя Кангрэса ЗША, Усебеларускі З'езд за Незалежнасць і знікненне Дзмітрыя Завадскага, паспяховы байкот палатна-выбарчага фарсу і знакавыя падзеі ў Югаславіі, пачырваненне Расіі і Алімпіяда. А ўсё гэта называецца адным словам – ***гісторыя***. Гісторыя, якая робіцца ў нас на вачах. Мы – яе прамыя саўдзельнікі. Пра нас пасля будуць пісаць як пра сучаснікаў гадоў пераломy. Пералому чырвонай сістэмы, пералому палітычна-эканамічнага маразму. Ужо нядоўга засталося чакаць.

А за вакном тым часам калядна-навагодняя мітусня, усе спяшаюцца. Спяшаюцца не спазніцца зрабіць усё, як у людзей. Выстаяць у чарзе за тортам і паспець набыць шампанскае, падарункі дзецям і сувенір каханай. Часам стамляешся, захоплівае дыханне ад усяго гэтага, за чым ганяешся ўсё жыццё і ўсё роўна не паспяваеш. Азірнешся – а за спінай амаль нічога. Разбітая крышталёвая цішыня і слёзы ў паветры, аксамітныя сэрцы родных і немагчымасць вяртання. Быццам бы на ўсіх святлафорах чырвонае святло. Жывем. І гэта мы. На Беларусі. Але мы не маем права сысці, не маем права зламацца. Ні ад удараў дубінак, ні ад доўгіх дзён недабрабыту, ні ад хлусні.

Пад самы Новы год да беларусаў з экраннай прамовай звернецца Лукашэнка, мусіць, зноў будзе гаварыць пра нешта добрае. Пуцін перад расейцамі пакажацца на 5 хвілінаў, Клінтан – на 10, Лукашэнку, выходзіць, ёсць чым пахваліцца на цэлых 15 хвілінаў. Хочацца верыць, у апошні раз.

Заўсёды памятайце, што вы – не адзінокія, заўсёды ёсць тыя, хто вас зразумее, падтрымае. І НАША СВАБОДА ў іх ліку. Памятайце, што чорная паласа, якая б доўгая яна ні была, заўсёды сканчаецца. А за ёй будуць поспехі, радасць і шчасце. Трэба проста чакаць і рабіць упартыя крокі ў гэтым накірунку. А галоўны крок мы з вамі мусім зрабіць у наступным годзе. Разам. Супольна. У будучыню.

Заставайцеся з намі ў наступным годзе, стагоддзі, тысячагоддзі! У газеты можа быць кароткі век, але ***ваша і наша свабода заўсёды з намі.*** Праводзім 2000-ы і сустрэнемся ў 2001-ым! Будзьма разам!

**Ваша НАША СВАБОДА**

**Мы папрасілі вядомых у Беларусі асобаў пажадаць што-небудзь у новым годзе і новым стагоддзі сваім сябрам і прыяцелям, ворагам і непрыяцелям, а таксама самім сабе. Гэтыя іхнія зычанні вы знойдзеце на наступных старонках газеты.**

**Наступны нумар газеты выйдзе ў пятніцу, 5 студзеня 2001 года**



У новае стагоддзе па-беларуску

Фота IREX/ProMedia

# Пад покрывам таямніцы

Рыгор БУЯН

**Пад покрывам таямніцы прайшла доўгачаная першая сустрэча кіраўніка КНГ АБСЕ Ханса-Георга Віка з міністрам МЗС Міхаілам Хвастовым 21 снежня. Яна зацягнулася на паўгадзіны болей, чым першапачаткова планавалася, а ўдзельнікі сустрэчы адмовіліся даваць каментарыі па сутнасці размовы.**

«Мы абмяркоўвалі ўсе пытанні, звязаныя з супрацоўніцтвам гэтай краіны з АБСЕ ў цэлым і Кансультатыўна-наглядальнай групай, у прыватнасці. Наперадзе мы чакаем канструктыўнага супрацоўніцтва», — гэта адзінае, што не стаў хаваць ад журналістаў пасля сустрэчы Х.-Г.Вік. У афіцыйным паведамленні прэс-службы знешнепалітычнага ведамства гаворыцца, што «ўвага кіраўніка КНГ АБСЕ была звернутая на неабходнасць ажыццяўлення дзейнасці місіі ў строгай адпаведнасці з вызначаным для яе мандатам».

Аднак не ўсё так проста. Ва ўмовах шалёнага прэсінгу на заходніх дыпламатаў (спачатку пасол Вік, затым амбасадар ЗША Майкл Козак) М.Хвастоў, трэба думаць, пачувае сябе не дужа ўтульна. Міністр аказаўся між двух агнёў: з аднаго боку, ён неаднаразова заяўляў пра паглыбленне супрацоўніцтва з місіяй АБСЕ, з другога боку – Аляксандр Лукашэнка ды афіцыйная прапаганда ўсяляк бэсцяць Х.-Г.Віка. Літаральна 19 снежня ў Савеце Рэспублікі А.Лукашэнка прыгразіў, што паслу Віку «прыйдзецца пакінуць нашу краіну», калі пацвердзіцца інфармацыя БТ. «Сёння заварушыўся нейкі Вік і АБСЕ ў Беларусі... У нас ёсць законы, і калі Вік ды іншыя замежныя грамадзяне пераступяць або выйдуць за рамкі нашых законаў, мы зробім адпаведныя захады», — падкрэсліў А.Лукашэнка.

Таму відавочныя прычыны, па якіх бакі палічылі за лепшае не каментаваць прычыну. Можна толькі здагадвацца, пра што ішла гаворка. Відаць, пасол Вік прапанаваў Міхаілу Хвастову аднавіць перамовы экспертаў па СМІ ад урада і апазіцыі ў рамках Кансультатыўнага савета апазіцыйных палітычных партыяў. Нягледзячы на правал перамоўнага працэсу перад парламенцкімі выбарамі, КСАПП пры пасярэдніцтве КНГ АБСЕ спадзяецца дасягнуць дамоўленасці з урадам па інфармацыйным забеспячэнні цяпер ужо прэзідэнцкіх выбараў. Актуальнасць гэтай праблемы пацвярджае і прыезд на пачатку лютага ў Мінск упаўнаважанага ў пытаннях СМІ АБСЕ Фраймута Дувэ.

Вядома, што Еўропа па-ранейшаму настойвае на выкананні беларускімі ўладамі чатырох умоваў. Самай актуальнай праблемай зараз з'яўляецца дэмакратызацыя выбарчага заканадаўства ў частцы, якая мае дачыненне да прэзідэнцкіх выбараў. Ханс-Георг Вік называе гэта прыярытэтнай задачай місіі і настойвае на прыцягненні да працы экспертаў Венецыянскай камісіі ды БДІПЧ АБСЕ. Трэба думаць, што гэтая пазіцыя была даведзеная да Міхаіла Хвастова.

Кажучы пра працяг кансультацыяў з МЗС, пасол Вік, мабыць, меў на ўвазе прыём да 25-годдзя заключэння Хельсінкскіх пагадненняў, які 15 студзеня арганізуе КНГ АБСЕ. Госцем на прыёме будзе і міністр М.Хвастоў. ■

# Сямён Домаш: «Развaжлівасці ворагам маім»

**Сямён Домаш – фігура знакавая ў беларускай палітыцы. Дэпутат Вярхоўнага Савета 13 склікання, былы губернатар Гродзенскай вобласці, ён не падтрымаў лукашэнкавага рэферэндуму 96-га года і сышоў у апазіцыю. З тых пор С.Домаш рэзка крытыкуе палітыку А.Лукашэнкі, балазе, падставаў для крытыкі хапае. У лістападзе-снежні шматлікія дэмакратычныя арганізацыі зрабілі стаўку на Сямёна Домаша як на адзінага кандыдата ў прэзідэнты. Цяпер ідуць перамовы з усімі трыма прэтэндэнтамі на адзінага кандыдата; невядома, чым яны завершацца, але ў любым выпадку прынцыповасць і цвёрдасць палітыка выклікаюць толькі павагу да яго. Незалежна ад таго, стане ці не Сямён Домаш адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад аб'яднанай апазіцыі.**

Напярэдадні Новага года і 51-га дня нараджэння, які палітык адзначыць 2 студзеня, прапануем вам інтэрв'ю з Сямёнам Домашам.

***— Сямён Мікалаевіч, калі разгледалі фігуру адзінага кандыдата ў прэзідэнты, большасцю галасоў Каардынацыйная Рада Дэмакратычных Сілаў падтрымала менавіта Вас. Чаму?***

— За мяне выказаліся людзі ўсіх рэгіянальных аб'яднанняў, грамадскіх, палітычных і прафсаюзных арганізацыяў, абласцей і буйных гарадоў Беларусі, якія добра ведаюць мяне. Я заўсёды імкнуўся і адстойваю палітыку аб'яднання дэмакратычных сілаў. Мой вопыт працы і ранейшая дзейнасць у народнай гаспадарцы і ўладных структурах, магчыма, таксама паўплывала на такое рашэнне.

***— Прымаючы Вас як адзінага кандыдата, не ў апошнюю чаргу КРДС зважала на адсутнасць кампрамату, за выключэннем хіба што вашага дома ... Як рэагуе ўлада на Вашыя прэтэнзіі пазмагацца за прэзідэнцтва?***

— Лукашэнка і яго памагатыя адным са сваіх галоўных накірункаў змагання за ўладу выкарыстоўвалі і выкарыстоўваюць хлусню. У Беларусі практычна няма ні воднага апазіцыйнага палітыка, якога б у чым-небудзь не абвінавачвалі.

Што датычыць гісторыі з маім домам, дык пасля абрання старшынём аблвыканкама ў 1993 годзе я з сям'ёй пераехаў у асобнае жыллё для арганізацыі аховы, якая была ўведзеная Саўмінам Рэспублікі пасля забойства майго папярэдніка.

Пры разглядзе справы, якую вы ўзгадалі і якая была ўзбуджаная па патрабаванні Лукашэнкі, суд не знайшоў ніякага парушэння закона з майго боку.

Як рэагуе ўлада ў цэлым на вылучэнне маёй кандыдатуры – не ведаю. Але па звестках, якія даходзяць да мяне, шмат яе прадстаўнікоў прымаюць гэта станоўча – улада гэта не толькі Лукашэнка.

***— Сямён Мікалаевіч, яшчэ 23 снежня Рада збіралася зацвердзіць механізм вылучэння адзінага кандыдата – да гэтага часу мусілі завяршыцца кансультацыі паміж патэнцыйнымі прэтэндэнтамі. Аднак паседжанне КРДС перанесенае на 5 студзеня. Ці азначае гэта, што кансультацыі не далі плёну?***

— Наадварот, кансультацыі, якія вырашана прадоўжыць, на мой погляд, толькі палепшаць сітуацыю з вылучэннем адзінага кандыдата. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

## НАВІНЫ

■ **Спажыванне гарэлкі ў Беларусі сёлета ў параўнанні з мінулым годам скарацілася амаль на 25%.** Па дадзеных «Мінсккрухмалпрама», у 2000 годзе яе выраблена 2.117.000 дэкалітраў, гэта значыць, трохі болей як 40 мільёнаў пляшак. Тым не менш, напрыклад, завод алкагольных вырабаў «Крышталь» рыхтуецца да выпуску новых гатункаў гарэлкі. Гэта будзе «Чорны бусел», а таксама (мусіць, дзеля экспарту ў Расію) «XXI век» і «Земляне».

■ **Як паведаміла міністэрства статыстыкі, у лістападзе сярэдні заробак па краіне склаў 81 тысячу рублёў.** Гэта значыць, што ў параўнанні з кастрычнікам (79 тысячаў) ён павялічыўся на 1,6%. Аднак у доларавым эквіваленце ўсё наадварот: у кастрычніку сярэдняя зарплата была 73,5 долараў, а ў лістападзе стала 70. Як тут не ўзгадаць абяцанні Лукашэнкі, што ў жніўні 2001 года яна будзе адпавядаць 100 доларам.

■ **Ссекчы на Новы год елку ў лесе можа абысціся ўдвая даражэй, чымсьці купіць яе на базары.** Калі падчас гэтага занятку вас зловіць ляснік, то, паводле Ляснога кодэкса, давядзецца заплаціць, па-першае, штраф у памеры 1 мінімальнай зарплаты (3.600 рублёў), а па-другое, кампенсацыю за ссечаную ялінку. Звычайна гэта 0,4 ад мінімальнага заробку (1.440 рублёў), але ў перадНавагоднюю пару сума падвойваецца. А на базары ёлка будзе каштаваць ад 700 да 3.000 рублёў.

■ **Увечары 27 снежня была абрабаваная супрацоўніца вялікабрытанскай амбасады ў Беларусі.** Ёй у кватэру пазванілі два незнаёмыя мужчыны з кветкамі, якія і аказаліся рабаўнікамі. Уваліўшыся ў кватэру, яны апранулі маскі і пачалі забіраць аўдыё-і відэатэхніку.

■ **Новы гатунак піва выпусціў да Новага года ААТ «Лідскі броварны завод».** Гэта цёмнае піва, якое называецца «Портэр лідскі». Напой утрымлівае 8 градусаў алкаголю і 20% шчыльнасці. Разам з тым тут аднавілі выраб светлага гатунку «Наша марка». Напоі ўжо з'явіліся ў продажы па кошце за 500 рублёў.

■ **30 снежня ў Мінску адбудзецца адкрыццё першай чаргі новага чыгуначнага вакзала, які будуецца ўжо амаль 10 гадоў.** Яго ўзводзяць на месцы знесенага ў 1991 годзе старога вакзала, што праіснаваў каля 120 гадоў. Як паведамляюць у Беларускай чыгунцы, у эксплуатацыю будуць уведзеныя галоўны корпус з вестыбюлем, залай чакання, радыёвузлом і сховішчнымі камерамі. Вакзал зможа прымаць адразу да 7 тысячаў пасажыраў. У наступным годзе з'явяцца білетныя касы, эскалатары і гандлёвыя павільёны. Адно незразумела, нашто стратнай чыгунцы такая аграмадзіна.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1230**

 



## Апазіцыя рыхтуе пераварот?

**Рыгор БУЯН**

Афіцыйны Мінск распачаў чарговую хвалю антыапазіцыйнай істэрыкі. 24 снежня вуснамі галоўнага «рэзанатара» Аляксандра Зімоўскага апазіцыя абвінавачаная ў падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту. Як сцвярджае А.Зімоўскі, з гэтаю мэтай на Беларусь ужо завозіцца зброя. «Праваахоўнымі органамі і спецслужбамі Беларусі ў апошні час было перахоплена каля 8 тысячаў адзінак стралковай зброі, амаль 110 тысячаў боезапасаў і каля 400 выбуховых прыстасаванняў», якімі, паводле «рэзанатара», абзавялася аб'яднаная апазіцыя. Падобная заява, укладзеная ў вусны асноўнага рупара кіруючага рэжыму – Беларускага тэлебачання – сведчыць пра далейшае закручванне гаек і ўзмацненне пераследу апазіцыі.

Першаю на абвінавачванні зрэагавала Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП), якая называла ў звязку нібыта з завезенай на Беларусь зброяй. 27 снежня АГП накіравала запыт кіраўніку Савета бяспекі Уралу Латыпаву, міністру ўнутраных справаў Уладзіміру Навумаву і старшыні КДБ Леаніду Ерыну. Ліберал-дэмакраты патрабуюць прывесці доказы, каб «пацвердзілі ці прывялі хоць нейкія факты, колькі з 8 тысяч адзінак зброі атрымала аб'яднаная апазіцыя ўвогуле і АГП ці яе прадстаўнікі; колькі кілаграмаў узрыўчаткі». Калі ж АГП дачакаецца адказаў, то пасля іх вывучэння партыя можа ініцыяваць судовы працэс за паклёп.

У спецыяльнай заяве АГП расцаніла абвінавачванні БТ «як практычную рэалізацыю плана аб сілавым утрыманні ўлады, які быў агучаны Лукашэнкам падчас сустрэчы з кіруючым складам КДБ».

— На наш погляд – і мы гэта прагназуем, — што ўлады робяць спробу рыхтаваць грамадскую думку да рэпрэсіяў, да сілавога вырашэння праблемаў, якія будуць узнікаць у рэжыму. І мы не выключаем таго, што праз пэўны прамежак часу, калі грамадская думка будзе падрыхтаваная, праз некаторы час могуць прагучаць выбухі на аб'ектах рознага прызначэння – сацыяльна-эканамічнага, на нафта-, газаправодах, ці нават у жылых раёнах. Усё гэта будзе спісвацца на апазіцыю. Такім чынам Аляксандр Рыгоравіч разлічвае атрымаць дадатковыя галасы ці сімпатыі перад выбарамі. Зараз ён будзе адкрываць вакзал у сталіцы, як бы паказываючы стваральную працу, а побач будзе ствараццa імідж гэтакай агрэсіўнай апазіцыі, якая толькі і хоча, каб захапіць уладу ў Беларусі, — сцвярджае Анатоль Лябедзька. Адкуль жа ўзяліся такія канкрэтныя лічбы, якімі так упэўнена жангліраваў А.Зімоўскі?

— Не выключаю, што гэтыя лічбы ўзятыя «з паталка» невядома за які прамежак часу. Магчыма, гэта за вялікі прамежак часу: дзесьці ў некага забралі стрэльбу, дзесьці знайшлі з часоў вайны нейкую зброю – і ўсё гэта абагульнілі і прадставілі такія лічбы. Таму што гэта фантастычныя лічбы. Я думаю, што гэтыя лічбы ўзятыя за вялікі прамежак часу, і ўсё гэта зброя, якая выявілася праз самыя розныя структуры, — гаворыць А.Лябедзька.

Намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка лічыць усё гэта «шалёнымі выказваннямі». «Беларуская апазіцыя пераможа лукашэнкавы рэжым без усялякай зброі. Гэтыя выказванні – шаленства; яны самыя перапужаныя, мусіць, да такой ступені, што падштанікі мокрыя. Гэта гнусная, брудная барацьба з апазіцыяй». З'яўленне канкрэтнага пераліку «ўвезенай зброі» Ю.Хадыка вытлумачвае тым, што ўладзе неабходна зрабіць так, каб «хлусня выглядала больш праўдападобна». Чарговая антыапазіцыйная кампанія разгорнутая напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, якія даюць «рэальную магчымасць змяніць уладу». ■

Фота Ул.ШЛАПАКА

## Палітыкам абражаць дазволена

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Абсалютна абсурдным назваў старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька рашэнне Мінскага гарадскога суда аб тым, што адмова Фрунзенскага раённага суда сталіцы ў прыёме іску аб абароне гонару і годнасці з'яўляецца законнай. Прычына адмовы, на думку суддзяў Яблакавай, Калернінай і Цэсік, у тым, што А.Лукашэнка казаў свае словы ў парадку палітычнай дыскусіі і да разгляду такія справы не прымаюцца.

А сутнасць, нагадаю, наступная. 15 кастрычніка падчас выступу ў прамым эфіры беларускага тэлебачання Лукашэнка распавёў аб тым, што, маўляў, Анатоль Лябедзька атрымаў ад амбасадараў заходніх дзяржаў 1.500 долараў ЗША за арганізацыю «Маршу Свабоды» і іншых апазіцыйных мерапрыемстваў. Лябедзька назваў гэта неабгрунтаванай хлуснёй і падаў іск у раённы суд. Там аднак справу да разгляду не прынялі і дэмакрат абскардзіў рашэнне ў судзе гарадскім. І вось зноў абсалютна абсурдная і юрыдычна неабгрунтаваная адмова. Лябедзька, аднак, збіраецца прайсці ўсе інстанцыі, а пасля прадставіць гэтыя факты падчас сваіх выступаў у разнастайных еўрапейскіх інстанцыях, каб засведчыць факты парушэнняў правоў чалавека на Беларусі і пераслед па палітычных матывах. ■

## Выкуп за дэпутата

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**Жонка дэпутата-вязня Андрэя Клімава Таццяна Леановіч просіць дапамогі ў зборы сродкаў для пакрыцця 96 тысячаў долараў, прызнаных судом стратай, нанесенай Клімавым дзяржаве.**

Жанчына перакананая, што, толькі выплаціўшы гэтыя грошы, удасца выратаваць здароўе, а магчыма, і жыццё Андрэю Клімаву. За 3 гады зняволення Клімаў захварэў на цукровы дыябет і «пасадзіў» сэрца. Спецыялісты лічаць, што стан ягонага здароўя не сумяшчальны з турэмнымі ўмовамі, а між тым ён не адбыў яшчэ і паловы прызначанага судом тэрміну. Калі грошы ўдасца сплаціць да 18 студзеня, то ёсць шанец патрапіць пад амністыю і выйсці на волю раней альбо палегчыць умовы ўтрымання, сцвярджае жонка Клімава . І з гэтым збольшага згодны адвакаты Клімава. Праўда, сам вязень ініцыятыву выплаты грошай не вітае. Ён па-ранейшаму не лічыць сябе вінаватым і плаціць грошы адмаўляецца. Клімаў параўноўвае сваё становішча з палонным, ад сваякоў якога бандыты патрабуюць выкуп.

Таццяна Леановіч спадзяецца на дапамогу людзей добрай волі і падтрымку міжнародных арганізацыяў, у тым ліку АБСЕ. Яна сцвярджае, што ў самой яе такіх грошай няма. «Андрэй грошы ў падполлі не трымаў, усе прыбыткі ён укладаў у справу, любіў, каб грошы вярцеліся», — кажа Таццяна. Але ўлады фактычна разарылі ўсе структуры прадпрымальніка Клімава – ягоны банк зачынены, маёмасць будаўнічых фірмаў арыштаваная. За 2 гады, пакуль ішло следства, будаўнічая тэхніка, якая належала Клімаву, была раскрадзеная ці прыйшла ў нягодны стан. Атрымалася, як заўсёды ў экспрапрыятараў – і самі не пабагацелі, і чалавека разарылі. «З усяго былога дабрабыту ў нас засталася толькі пустая кватэра, у якой нават няма тэлевізара. На андрэевым мерседэсе цяпер катаюцца прэзідэнцкія халуі, у доме, які ён пабудаваў, жывуць прэзідэнцкія дэпутаты, а сам ён гніе ў турме», — абураецца Таццяна Леановіч.

Яна таксама заяўляе, што калі Клімаў выйдзе на волю, то будзе судзіцца з мінскімі гарадскімі ўладамі, якія так і не разлічыліся з ім за будаўніцтва элітнага дома на Лодачнай вуліцы. А гэта прыблізна 200 тысячаў долараў. З гэтых грошай можна будзе разлічыцца з тымі, хто дапаможа цяпер Клімаву выйсці з турмы. ■

## Сямён Домаш: «Разважлівасці ворагам маім»

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

***— Ці гатовыя Вы, Сямён Мікалаевіч, маральна і фізічна да апошняга змагацца за прэзідэнцкае крэсла? І як Вы расцэньваеце свае шансы на перамогу, калі станеце кандыдатам ад аб'яднанае апазіцыі?***

— Калі мяне падтрымаюць, — у мяне хопіць вопыту і загартоўкі, маральных і фізічных сілаў, каб не толькі змагацца да апошняга, але і перамагчы. Лічу, што гэта поўнасцю магчыма, калі будзе створана моцная кааліцыя, у першую чаргу, дэмакратычных сілаў.

***— Ці правільна гэта, Сямён Мікалаевіч, вылучаць адзінага кандыдата? Многія, да прыкладу Уладзімір Ганчарык, лічаць, што найперш трэба не шукаць канкрэтную асобу, а сфарміраваць каманду, з якой апазіцыя пойдзе на выбары, размеркаваўшы ўсе ключавыя пасады будучага ўрада? Ваша думка.***

— Згодзен з тым, што на выбары трэба ісці з камандай, у якой будуць вызначаны нават асобы, якія будуць займаць пэўныя пасады. Але камандзе патрэбен лідэр, ці ў нашым выпадку кандыдат.

***— Ці мае аб'яднаная апазіцыя рэсурсы – людскія, матэрыяльныя, — каб забяспечыць перамогу свайму кандыдату на прэзідэнцкіх выбарах 2001 года? Ці ёсць увогуле шанс перамагчы?***

— У шырокай кааліцыі знойдуцца ўсе патрэбныя для перамогі рэсурсы. Што датычыць захадаў цяперашняй улады ачарніць у вачах выбаршчыка апазіцыю, то што можна чакаць ад людзей, якія не кіруюцца ў сваім жыцці ніякімі маральнымі прынцыпамі. Мы павінны быць гатовымі да самых брудных, непрыстойных выпадаў на наш адрас. Але мы здолеем супрацьстаяць гэтаму і прыцягнуць у наш бок сімпатыі выбаршчыкаў.

***— Як будзе, на Ваш погляд, развівацца ўнутрыпалітычная сітуацыя на Беларусі напярэдадні прэзідэнцкай кампаніі? Улады цісну́ць замежны дыпламатычны корпус, акрэдытаваны ў Мінску; апазіцыя абвінавачваецца ва ўсіх смяротных грахах, аж да спробаў гвалтоўнай змены ўлады, дзеля чаго, нібыта, апазіцыя завозіць у краіну зброю?***

— Часткова я ўжо адказаў на гэтае пытанне. Што тычыцца адносінаў да замежнага дыпламатычнага корпуса, то калі Лукашэнка адчуе (а ён ужо зараз пачынае адчуваць), што сітуацыя будзе пераважваць не на яго карысць, першае, што ён паспрабуе зрабіць – гэта абмежаваць кантроль за становішчам у Беларусі з боку міжнароднай супольнасці. Не выключана, што будзе актывізаваны пошук ворагаў як сярод дыпламатаў, так і ўнутры краіны, абвінавачванні дзеячаў апазіцыі ва ўсіх грахах.

Доказ гэтаму – бязглуздыя сцвярджэнні Беларускага тэлебачання. Яшчэ раз паўтару — мы павінны быць гатовы да ўсяго і, у першую чаргу, да таго, што ўладу Лукашэнка проста так не аддасць.

***— І некалькі навагодніх пытанняў, Сямён Мікалаевіч. З якімі пачуццямі і думкамі Вы сустракаеце новы 2001 год, прыход новага стагоддзя і новага тысячагоддзя?***

— Будучы год для мяне знамянальны тым, што ў нас з'яўляецца магчымасць выправіць памылку, якую мы зрабілі ў 1994 годзе. І я вельмі спадзяюся, што нашыя людзі зразумеюць гэта, у рэшце рэшт, адкінуць абыякавасць і ў іх прачнецца адчуванне адказнасці за свой лёс, лёс сваіх дзяцей, сваёй краіны і жаданне стварыць яго самім. У новым стагоддзі не можа быць месца той гнюсі, якую мы маем зараз.

***— На 2001 год, на прэзідэнцкія выбары беларусы ўскладаюць велізарныя надзеі. Ці апраўдаюцца яны, гэтыя надзеі на лепшае, ці гэтай краіне прыйдзецца і далей гібець з цяперашняй уладай?***

— Лічу, што калі беларускі народ за мэту на будучы год возьме лозунг «Наша жыццё — у нашых руках» — і рэалізуе яго, тады мы зможам змяніць сітуацыю.

***— Што Вы пажадаеце сваім сябрам, прыяцелям?***

— Шчасця, дабрабыту, моцнага здароўя, невычарпальнай энергіі і аптымізму.

***— Што пажадаеце ворагам, калі яны ёсць у Вас?***

— Разважлівасці. Каб яны зразумелі, што я ім не вораг.

***— І што, нарэшце, Вы пажадалі б сабе на парозе трэцяга тысячагоддзя?***

— Каб мне Бог даў мудрасці і шмат верных сяброў.

***— Вялікі дзякуй, Сямён Мікалаевіч! Віншуем таксама Вас з Новым годам і днём нараджэння.***

**Інтэрв'ю ўзяў Рыгор БУЯН**

Домаш Сямён Мікалаевіч нарадзіўся 2 студзеня 1950 года ў вёсцы Тумашы Ляхавіцкага раёна на Брэстчыне. Беларус. Мае дзве вышэйшыя адукацыі (пасля Бабруйскага аўтатранспартнага тэхнікума закончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі, а затым – Мінскую Вышэйшую партыйную школу).

У 1966-1970 гадах працаваў механікам па рамонце аўтамабіляў Астравецкай аўтабазы №4. 1970-1974 гады – галоўны інжынер Астравецкай аўтабазы №4, а ў 1974-1977 гадах з'яўляўся ўжо дырэктарам Астравецкай аўтабазы №4. 1977-1982 гады – дырэктар Гродзенскага аўтакамбіната №1. 1982-1983 гады – загадчык прамыслова-транспартнага аддзела гаркама КПБ Гродна. 1983-1987 гады – 2 сакратар Кастрычніцкага райкама КПБ Гродна (курыраваў прамысловасць, транспарт, будаўніцтва ды іншыя галіны народнай гаспадаркі). 1987-1990 гады – старшыня гарвыканкама і гарсавета дэпутатаў у Лідзе. 1990-1991гады – старшыня гарвыканкама Гродна. 1991-1993 гады – старшыня гарвыканкама і гарсавета дэпутатаў Гродна. 1993-1994 гады – старшыня Гродзенскага аблвыканкама і абласнога Савета дэпутатаў. 1994-1996 гады – старшыня Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў. З 1996 года – член Прэзідыума ВС 13 склікання. З сакавіка 1997 года каардынуе дзейнасць дэмакратычных палітычных, грамадскіх, прафсаюзных арганізацыяў Гродзенскай вобласці, а з траўня 2000 года – і дзейнасць аб'яднання «Рэгіянальная Беларусь» – шырокай кааліцыі, у склад якой уваходзяць грамадскія, прафсаюзныя ды палітычныя дэмакратычныя арганізацыі ўсіх абласцей Беларусі.

## «8 канал» на мяжы закрыцця

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Недзяржаўнае мінскае тэлебачанне «8 канал» можа перапыніць сваё вяшчанне ўжо з сённяшняга дня. Пра гэта паведаміў выканаўчы дырэктар кампаніі Пётр Чарнаморац. Па ягоных словах, прадпрыемства МТІС (Мінскія тэлевізійныя і інфармацыйныя сеткі) збіраецца адключыць «8 канал» ад перадатчыка, праз які вядзецца вяшчанне.

Па словах прадстаўнікоў «8 канала», замест яго на той жа частаце можа пачаць працаваць нядаўна створанае закрытае акцыянернае таварыства «Сталічнае тэлебачанне». Дырэктар «СТБ» Рыгор Новікаў каментаваць сітуацыю адмовіўся. Але агульная карціна атрымоўваецца такая.

Сямейна-забаўляльны недзяржаўны тэлеканал «8 канал», які вядзе трансляцыю на Мінск і Мінскую вобласць, мае ліцэнзію на вяшчанне да 2004 года. Гэта значыць, што ён можа выходзіць у эфір штодня на сваёй частаце. Па словах П.Чарнаморца, за некалькі гадоў працы тэлеканал заваяваў вялікую папулярнасць сярод мінчукоў і жыхароў Мінскай вобласці. Якасна прымаць яго могуць у Мінску каля 250.000 кватэраў, гэта 500.000–1.000.000 чалавек. Але для таго, каб гледачы маглі ўбачыць перадачы канала, неабходны перадатчык. Усе перадатчыкі ў Беларусі належаць дзяржаве, таму каналу неабходна штогод аплачваць арэнду.

Дамову на 2001 год міністэрства сувязі ў асобе Рэспубліканскага радыётэлевізійнага перадаючага цэнтра заключаць, здаецца, не збіраецца. Такім чынам, 1 студзеня 2001 года мінчукі могуць сутыкнуцца з тым, што, націснуўшы на кнопку «8 канала», яны яго не пабачаць.

Тая частата, на якой пакуль яшчэ выходзіць «8 канал», з'яўляецца «раскручанай» – гэта значыць, што калі замест «8 канала» на ёй пачне сваю трансляцыю іншы тэлеканал, то ён адразу сабярэ вялікую аўдыторыю гледачоў, якая застанецца яму «ў спадчыну». Гэтаму новаму каналу не спатрэбіцца выдаткоўваць вялікія сродкі на сваю рэкламу – гледачы ўжо прызвычаіліся націскаць менавіта тую кнопку, дзе цяпер ёсць «8 канал». ▶

*Заканчэнне на стар.12*

**НАРОДНАЕ МЕРКАВАННЕ**

## Што, на вашу думку, чакае Беларусь у наступным годзе?

**ВІКТОРЫЯ, псіхолаг:**

— Зрухі нейкія павінны быць, але не думаю, што гэта будуць змяненні палітычнага плана.

**ІГАР, студэнт:**

— Цалкам магчыма, што змяненні будуць у палітычным і эканамічным ракурсе, ёсць такое прадчуванне. Але я не спецыяліст і не разумею, што канкрэтна можа змяніцца.

**ВОЛЬГА МІКАЛАЕЎНА, юрыст-педагог:**

— Змяненняў нейкіх хацелася б канечне, але ці будуць яны? Не ведаю.

**ШАВЯКОВА НАТАЛЛЯ, хатняя гаспадыня:**

— Я думаю, што абсалютна нічога не зменіцца, і ўвогуле лічу немагчымымі нейкія змены ў гэтай краіне, пры гэтым, прабачце, народзе.

**АНІСІМАВА АЛЕСЯ, гандлярка:**

— Мне так здаецца, што Беларусь наша квітнее ў параўнанні з іншымі краінамі і змяненні могуць быць толькі станоўчыя. Але хацелася б, каб заробак большы стаў, каб пражыць гандлярам неяк.

**ВІКТАР СКРЫПЧАНКА, эканаміст:**

— Я думаю, што ў бліжэйшыя чатыры гады жыццё тут не зменіцца ў лепшы бок. У наступным годзе застанецца цяперашні рэжым, і пакуль у яго наступны тэрмін не скончыцца – нічога не будзе.

**ТАЦЦЯНА, менеджэр:**

— Нас усіх чакае шмат добрага, мы станем жыць лепей, станем жыць весялей! Я веру ў гэта.

**Апытвалі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

 

# Ірландыя запрашае працаўнікоў

**Міхась КАРПОВІЧ**

**Кожны, хто жадае паехаць на працу ў Еўропу, можа лёгка цяпер дасягнуць сваёй мары. Ірландыя запрашае працаўнікоў з усяго свету – уласнай працоўнай сілы ёй ужо не хапае, паведамляе кампанія NBC.**

Ірландскі ўрад падлічыў, што на працягу бліжэйшых трох гадоў краіне неабходна да 30.000 замежных рабочых штогод, каб задаволіць усе патрэбы рынку працы.

Узровень беспрацоўя ў Ірландыі рэзка скараціўся і складае цяпер 3,8%. Штогод тут ствараецца 100.000 працоўных месцаў, але працаўнікоў не стае. Таму аддзел занятасці пры ўрадзе Ірландыі распачаў глабальную кампанію па прыцягненні жадаючых добра папрацаваць.

Як паведаміў кіраўнік аддзела занятасці Грэг Крайг, цяпер у Ірландыі даступная любая праца, якую хоча атрымаць кандыдат, кожны сектар эканомікі гатовы да прыёму рабочых.

Напрыклад, будаўнічы сектар адчувае нястачу 10.000 працаўнікоў. Ірландыі патрабуюцца таксама медыцынскія сёстры, інжынеры, адмыслоўцы ў сельскагаспадарчай галіне.

У бліжэйшыя паўгода аддзел занятасці збіраецца правесці кампанію па вярбоўцы рабочых у Вялікабрытаніі, Францыі, Германіі, Канадзе, Аўстраліі, Новай Зеландыі, Чэхіі, Латвіі, Расіі, Паўднёвай Афрыцы і Індыі.

На сённяшні дзень урад Ірландыі выдаў ужо больш 10.000 дазволаў на працу людзям, якія прыехалі з іншых краінаў, у асноўным, неэўрапейскіх. Чакаецца, што да канца 2000 года будзе выдадзена 15.000 дазволаў, а ў студзені 2001 года колькасць працаўнікоў з Еўропы, а разам з імі — і саміх ірландцаў, што вярнуліся на радзіму, каб працаваць там, перавысіць 35.000 чалавек.

Сапраўды, шмат хто з ірландцаў, якія з'ехалі за мяжу ў пошуках працы, цяпер актыўна вяртаюцца. 35-гадовы электрык, які эміграваў 14 гадоў таму, паведаміў, што яшчэ зусім нядаўна ён і не збіраўся вяртацца.

Яшчэ некалькі гадоў таму моладзь у Ірландыі проста не ведала, чым ёй заняцца. Не было дзе працаваць, нельга было распачаць сваю справу. Аднак цяпер сітуацыя радыкальна змянілася. Тысячы ірландцаў вяртаюцца дадому, але яны не могуць запоўніць усе вакансіі на рынку працы, якія з'явіліся ў выніку беспрэцэдэнтнага эканамічнага бума. ■

# Новы прэзідэнт пачне з белага аркуша

**Ірына СТАРЦАВА**

**Калі новы прэзідэнт ЗША Джордж Буш-малодшы ўпершыню прыйдзе ў Белы дом на працу 20 студзеня 2001 года, то яму давядзецца сустрэцца з пэўнымі цяжкасцямі: ягоны папярэднік не пакінуў яму ніводнай паперы, ніводнага дакумента. Дж. Бушу прыйдзецца ўсё пачынаць зноў, з чыстага аркуша.**



Гэтая традыцыя існуе ўжо больш за 20 гадоў, паведаміла газета *The Washington Post*. Перад зменай улады вычышчаюцца ўсе кабінеты ў Белым доме. Памочнікі былога прэзідэнта забіраюць літаральна ўсё – чыстую паперу, дакументы, алоўкі, ручкі... Апошнім часам таксама з'явілася традыцыя забіраць жорсткія дыскі камп'ютэраў у прэзідэнцкай рэзідэнцыі – яны таксама ўтрымліваюць каштоўную інфармацыю.

У адпаведнасці з Актам аб прэзідэнцкіх запісах (*Presidential Records Act*), які быў прыняты ў 1978 годзе, перад тым, як Белы дом зойме новаабраны прэзідэнт, архівы старога прэзідэнта ачышчаюцца або знішчаюцца.

Дарадца прэзідэнта Рональда Рэйгана Эдвін Мізі прыгадаў, што калі ягоны шэф-рэспубліканец перамог дэмакрата Джымі Картэра, то атрымаў у спадчыну выключна чысты офіс. «Калі я ўвайшоў, у скрынях не было ні кавалка паперы. Здаецца, я знайшоў толькі скрэпку для паперы... Вы, здаецца, чакаеце, што мінулая адміністрацыя прыбярэцца пасля сябе, але вы ўсё ж здзіўлены, што ўсё так пуста».

Біл Клінтан не стаў парушаць традыцыю. Усе паперы ўжо былі перавезены ў ягоны родны горад Літл-Рок (штат Арканзас). Там створаная прэзідэнцкая бібліятэка, і кожную паперу са стала Б.Клінтана цяпер будуць вывучаць адмыслоўцы-архівісты.

Натуральна, што поўная адсутнасць дакументаў можа значна ўскладніць дзейнасць новага прэзідэнта ў пераходны перыяд. «Амерыканцам патрэбны дзейны ўрад, — мяркуе Тэры Саліван, прафесар з універсітэта Паўночнай Караліны. — Калі прыходзіць новы прэзідэнт і яму даводзіцца навобмацак кіраваць краінай першыя тры месяцы, амерыканцы расчараваныя».

Аднак часта здараецца так, што новая адміністрацыя адмаўляе патрэбу ў старых дакументах і парадах. Напрыклад, новаабраны віцэ-прэзідэнт ЗША Рычард Чэйні, які працаваў у Белым доме, калі прэзідэнт Джэральд Форд перадаваў справы Джымі Картэру, прыгадвае: «Стаўленне да ўсяго гэтага было такое –«калі ты такі разумны, то чаму мы перамаглі? Чаму гэта нам патрэбныя вашыя парады? Вы, хлопцы, прайгралі». ■

# Што чакае Мілошавіча?

**Міхась КАРПОВІЧ**

Новы прэм'ер-міністр Сербіі Зоран Джынджыч паабяцаў, што ўжо ў студзені 2001 года былы дыктатар Югаславіі Слабадан Мілошавіч будзе прыцягнуты да судовай адказнасці. Гэтую заяву З.Джынджыч зрабіў праз дзень пасля таго, як на парламенцкіх выбарах у Сербіі перамагла дэмакратычная кааліцыя, заваяваўшы 178 з 250 месцаў у Скупшчыне, паведаміла агенцтва BBC.

Па словах новага прэм'ера, С.Мілошавічу будуць прад'яўленыя абвінавачванні ў карупцыі і злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі. Пазней можа пайсці размова і пра адказнасць за ваенныя злачынствы.

Зоран Джынджыч выказаў перакананасць, што ўжо ў студзені 2001 года С.Мілошавіч прадстане перад правасуддзем. А паколькі югаслаўскае заканадаўства не прадугледжвае магчымасці экстрадыцыі злачынца, то ўрад можа пайсці на пагадненне з Гаагскім трыбуналам па ваенных злачынствах у былой Югаславіі аб правядзенні працэсу ў Сербіі.

Тым часам, іншае меркаванне пра лёс С.Мілошавіча мае югаслаўскі прэзідэнт Васілаў Каштуніца. Ён выступіў супраць судовага пераследу былога дыктатара. Прынамсі, пакуль Югаславія не выберацца з эканамічнага крызісу.

Як перадае радыёстанцыя *Deutsche Welle*, югаслаўскі кіраўнік заявіў, што прававая сістэма і незалежныя СМІ ў Сербіі яшчэ не гатовыя да такога радыкальнага кроку. Апроч таго, як мяркуе В.Каштуніца, людзей цяпер больш турбуюць праблемы «хлеба надзённага», чым справядлівасць або помста. ■

# Мітэран застаецца ў вязніцы



**Ірына СТАРЦАВА**

Сын нябожчыка прэзідэнта Францыі Франсуа Мітэрана Жан-Крыстоф застаецца за кратамі. Такое рашэнне прыняў у мінулую сераду апеляцыйны суд Парыжа, паведаміла служба BBC.

Арышт напрыканцы мінулага тыдня сына былога прэзідэнта Францыі стаўся сапраўднай сенсацыяй. Жана-Крыстофа Мітэрана абвінавачваюць у саўдзельніцтве ў кантрабандных аперацыях – незаконных пастаўках расійскай зброі ў Анголу.

Французская паліцыя сцвярджае, што напачатку 90-х гадоў, калі Мітэран-малодшы быў дарадцам бацькі па сувязях з Афрыкай, ён атрымаў каля 2 мільёнаў долараў ад адной з кампаніяў, якая гандлявала зброяй з урадам Анголы. У сувязі з скандалам узгадваецца імя вядомага гандляра зброяй П'ера Фалькона – менавіта ён, нібыта, займаўся перадачай хабару сыну прэзідэнта. Жан-Крыстоф Мітэран не адмаўляе факта атрымання грошай, але сцвярджае, што ніяк не звязаны са злачыннымі групоўкамі.

Цяпер сын былога прэзідэнта Францыі знаходзіцца ў парыжскай турме з дасціпнай назвай *La Santé* (у перакладзе з французскай мовы — «здароўе»). Ён правёў там ужо больш за тыдзень - і цалкам магчыма, што не пабачыць волю ўжо да суда.

Сёлета французскія журналісты раскапалі інфармацыю, што да незаконнага гандлю зброяй могуць мець дачыненне не толькі Мітэран-малодшы, але і былы міністр унутраных справаў Шарль Паскуа, і міністр па справах замежнага развіцця Мішэль Русэн. Апроч таго, французская юстыцыя збіраецца заняцца вывучэннем дзейнасці Бернара Пусье, былога дырэктара французскай дзяржаўнай кампаніі, якая займаецца экспартам узбраенняў.

У снежні гэтага года Францыя выдала міжнародны ордэр на арышт дзелавога партнёра П'ера Фалькона, мільярдэра Аркадзя Гайдамака. Пра яго вядома, што ён мае адначасова французскае, ізраільскае, ангольскае і канадскае грамадзянствы запар. У 1993 годзе П.Фалькон і А.Гайдамак падпісалі пагадненне з Анголай аб пастаўцы туды расійскага вайсковага абсталявання на суму 43 мільёны долараў. У 1994 годзе было падпісана яшчэ адно пагадненне – гэтым разам, на 463 мільёны долараў. ■

# Скандал на чэшскім тэлебачанні

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Учора мусіў скончыцца самы гучны скандал на Чэшскім тэлебачанні за ўвесь час ягонага існавання. 28 снежня адбылося паседжанне Чэшскага савета па вяшчанні, па выніках якога новапрызначаны дырэктар Чэшскага тэлебачання Іржы Ходач мусіў падаць у адстаўку. На момант выхаду нумара ў друк пра адстаўку яшчэ не было абвешчана, аднак мала хто ў гэтым сумняваецца.

Як вядома, у выніку прызначэння Іржы Ковача на пасаду кіраўніка Чэшскага тэлебачання ў калектыве пачаліся хваляванні, вынікам якіх сталася перапыненне ў сераду ўвечары вяшчання ЧТ-1 і ЧТ-2, двух дзяржаўных тэлеканалаў. Да гэтага, на Каляды, чэшскія гледачы мелі магчымасць адначасова пабачыць розныя зводкі навінаў, якія часам супярэчылі адна адной.

Асноўны аргумент незадаволеных тэлежурналістаў і грамадскасці – І.Ходач быў прызначаны на кіруючую пасаду дзякуючы не прафесійным якасцям, а палітычным перакананням. Ён прадстаўляе інтарэсы Грамадзянскай дэмакратычнай партыі, і гэта дало падставы для апасенняў, што пры ім тэлекампанія можа пазбавіцца сваёй незалежнасці і стаць «прапагандысцкай машынай».



Сам Іржы Ходач у інтэрв'ю Чэшскаму радыё паведаміў, што не збіраецца нейкім чынам абмяжоўваць свабоду слова. Аднак ягоныя дзеянні гэтага не пацвярджаюць – ён ужо звольніў з працы 20 журналістаў, якія выступілі супраць ягонага прызначэння. Журналісты з гэтым не пагадзіліся і занялі галоўную студыю Пражскага тэлецэнтра, адкуль працягваюць весці перадачы, трансляцыя сігналу вядзецца праз спадарожнік.

На карысць страйкуючых журналістаў выказаліся прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел, міністр культуры Павел Достал, а таксама вядомыя дысідэнты савецкіх часоў Людвіг Васілюк і Здэнек Сверак. З аўторка перад Пражскім тэлецэнтрам ідуць мітынгі пратэста супраць новага дырэктара.

Прэс-сакратар Чэшскага савета па вяшчанні Лібар Роўчак заявіў, што Іржы Ходач не мае ніякага аўтарытэту сярод супрацоўнікаў тэлеканала. Як ён паведаміў агенцтву *BBC*, «калі І.Ходач паехаў да міністра ў сераду, то мусіў узяць таксі, бо нават кіроўца з Чэшскага тэлебачання не паслухаўся б ягоных загадаў».

Тым часам, лідэр Грамадзянскай дэмакратычнай партыі былы прэм'ер-міністр Чэхіі Вацлаў Клаўс заявіў, што неабходна як мага хутчэй прыватызаваць Чэшскае тэлебачанне. Ягоныя апаненты гавораць, што магчымая прыватызацыя сталася б найбольш небяспечнай пагрозай для свабоды слова ў Чэхіі за апошнія 11 гадоў. ■

# У Малдове распусцілі парламент

**Міхась КАРПОВІЧ**

Канстытуцыйны суд Малдовы абавязаў прэзідэнта краіны Пятра Лучынскага распусціць парламент пасля таго, як заканадаўцы не здолелі 21 снежня абраць новага кіраўніка дзяржавы з-за байкоту сесіі большасцю дэпутатаў. Пра гэта паведаміла агенцтва *Reuters*.

Суд вырашыў, што беспадстаўнае блакаванне публічнага паседжання парламента з'яўляецца абставінамі, якія апраўдваюць ягоны роспуск.

Нагадаем, што дэпутаты на працягу двух тураў не змаглі абраць новага прэзідэнта. Зрэшты, і выбіраць было асабліва няма з каго: камуніст Уладзімір Воронін і старшыня Канстытуцыйнага суда Павел Барбалат. Цяперашні прэзідэнт нават не балатаваўся – бо сёлета малдоўскія дэпутаты ўчынілі «аксамітавую рэвалюцыю» і забралі ў прэзідэнта практычна ўсе паўнамоцтвы, размеркаваўшы іх паміж парламентам і ўрадам. Але байкот дэпутатамі выбараў дазволіў Пятру Лучынскаму далей захаваць уладу. Ён будзе кіраваць краінай да таго часу, пакуль у Малдове не будуць праведзеныя датэрміновыя парламенцкія выбары і пакуль ужо новы парламент не здолее абраць годнай кандыдатуры на пасаду нумар адзін. ■

# Украіна змагаецца з Санта-Клаўсам

**Ірына СТАРЦАВА**

Ва Украіне распачалася акцыя «Украіна без Санта-Клаўса!». Не, яе арганізатары не маюць нічога ні супраць самога Новага года, ні супраць Каляд, ні супраць падарункаў. Уся праблема – у асобе таго прыемнага барадатага дзядулі, які гэтыя падарункі раздае.

Як адзначаюць арганізатары ў сваім звароце да грамадскасці, «на працягу апошніх гадоў асоба Дзеда Мароза, да якога прызвычаіліся з дзяцінства нямала людзей, выцясняецца абліччам Санта-Клаўса пры дапамозе рэкламы, а таксама навагодняй прадукцыі з выкарыстаннем элементаў, уласцівых выключна Санта-Клаўсу. Сёння гэты працэс набывае пагрозлівы характар. Большасць людзей проста не адрозніваюць Санту ад Дзеда Мароза».

Барацьбіты за Дзеда Мароза нагадваюць усім грамадзянам ягоныя асаблівыя прыкметы:

«1. Дзед Мароз носіць вельмі цёплую шапку з футранною апушкаю (ніякіх бамбошак або кутасікаў).

2. Нос Дзеда Мароза – звычайна чырвоны (бо на Поўначы ж дужа холадна!). Дапускаецца таксама варыянт сіняга носа з-за паўночнага падарожжа.

3. У Дзеда Мароза барада да самай падлогі. Белая і пухнатая, як снег.

4. Дзед Мароз носіць доўгую тоўстую шубу на футры. Спачатку колер шубы быў сіні, халодны, але пад уплывам чырвоных шубаў «еўрапейскіх братоў» змяніўся на чырвоны. На цяперашні час дапускаюцца абодва варыянты.

5. Рукі Дзед Мароз хавае ў вялікія рукавіцы.

6. Дзед Мароз не носіць рамянёў, падвязвае шубу кушаком. У крайнім выпадку зашпільваецца на гузікі.

7. Дзед Мароз надае перавагу выключна валёнкам.

8. З сабою Дзед Мароз заўжды носіць посах.

9. Мех з падарункамі. Дзед Мароз нікога да меха не падпускае, а сам дастае з яго падарункі. Заўжды здагадваецца, хто які падарунак чакае.

10. Дзед Мароз перасоўваецца пешшу, па паветры або на санях. Калі-некалі перасоўваецца на лыжах. Фактаў выкарыстання аленяў не зафіксавана.

11. Пастаянная спадарожніца Дзеда Мароза – унучка Снягурачка.

P.S. Дзед Мароз ніколі не носіць акуляраў і не паліць люльку!»

Актывісты руху «Украіна без Санта-Клаўса!» збіраюцца змагацца з амерыканскім дзедам да таго часу, пакуль на тэрыторыі Украіны не застанецца ніводнага Санта-Клаўса.



Зрэшты, метады барацьбы прапаноўваюцца самыя мірныя – сустрэць Новы год з Дзедам Марозам, расказаць дзецям казку пра Дзеда Мароза, а таксама прагаласаваць за любімага персанажа дзяцінства на сайце ў інтэрнэце http://didmoroz.hypermart.net/. Па стане на ўчора, за ўкраінскага Дзеда Мароза прагаласавала 70 чалавек, супраць яго – 9. ■

**Валерыя НАВАДВОРСКАЯ, лідэр партыі Дэмакратычны саюз Расіі:**



**1.** Пастаянства ў супрацьстаянні. Зараз галоўнае – супраціў. Я спадзяюся, што мае беларускія сябры не будуць вадзіць карагоды з Лукашэнкам.

**2.** Ворагаў я не віншую. З імі ніякіх кантактаў, акрамя баявых вылазак.

**3.** Я думаю, што ў сваім жыцці ўсё зрабіла. Хачу пажадаць сабе толькі годнай смерці.

# Тэмпы росту

СУАДНОСІНЫ ТЭМПАЎ РОСТУ РЭАЛЬНАГА ТАВАРАЗВАРОТУ І РЭАЛЬНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ Ў 1998-2000 г.г.

люты 1998, крас., чэрв., жнів, кастр., снеж., люты 2000, крас., чэрв., жнів., кастр., снеж., люты 1999, крас., чэрв., жнів.

40, 30, 20, 10, 0, -10, -20, -30, -40

**Міхал ЗАЛЕСКІ**

**Усё расце на Беларусі. Прычым расце хутка. Не паспее каторы раённы начальнічак патрапіць у Мінск, а ўжо ў яго пуза пакруглела, машына вялікая-вялікая, а хата, што той лядовы палац.**

Безумоўна, шаноўныя чытачы заўважылі, а не дык ім паведамілі дзяржаўныя медыі: народ стаў жыць лепей. Не тое, што за польскім часам ці пры простым сацыялізме. Паляпшэнне спраквакавана паводзінамі заработнай платы.

Каб вы ведалі, яна бывае намінальная, каторую нам выдаюць у касе за нашы працоўныя намаганні, і рэальная. Апошнюю апісаць вельмі цяжка. У адрозненне ад сваёй намінальнай сястрыцы, якая ўвасабляецца ва ўсё прыгажэйшыя і таўсцейшыя стосы рознакалібровых купюраў, рэальная зарплата прымушае думаць пра вадзяністую каўбасу, кефір, што не пакідае следу на посудзе, і смярдзючую «Астру» – апошнюю асалоду працоўных і беспрацоўных.

Якія ні якія, а грошы, нарэшце, ў кішэні. Паспаліты люд кідаецца ў крамы, каб апярэдзіць інфляцыю. Але яна спрытнейшая і весела зыркае круглымі нулікамі з кожнага цэтліка. Гэтак кожны месяц. Некаторыя нават пачынаюць сумаваць. Ваш карэспандэнт ведае чаму. Яны не чытаюць афіцыйнай статыстыкі. Тая, між іншым, рэгулярна паведамляе пра тэмпы росту, што вельмі абнадзейвае і робіць ціхім аптымістам.

Дык вось, высвятляецца, што не толькі заработная плата расце ў краіне балотаў і пасіўнай дэмакратыі, але і рознічны тавараварот. Бо калі ў грамадзянаў грошай, як у дурня махоркі, то хаваць іх у банках бессэнсоўна, а ад партыі і ўраду – небяспечна. Вось усе і купляюць. І гэтак кожны месяц. Атрымліваецца рэальны тавараварот: тысячы булак, бутэлек, гумавых ботаў і г.д., а не мільярды намінальных рублёў, што торбамі цягаюць з крамаў дужыя і смелыя інкасатары.

Такім чынам, у наступным месяцы ўсё зноў робіцца большым, чым у папярэднім. Робіцца нават цікава, які паказчык стане першым. Каб задаволіць азартныя чаканні аматараў нацыянальнай эканомікі, можна параўнаць тэмпы росту рэальнага тавараварoту і рэальнай заработнай платы. З улікам таго, што апошняя нязначна перавышае ўзровень мінімальных патрэбаў, тэарэтычна тыя тэмпы павінны супадаць.

На малюнку добра бачна, як, вылузваючыся са скуры, айчынны спажывец знаходзіць грашовы рэсурс, каб адправіць дзетак да школы, адпачыць і весела адзначыць царкоўныя і савецкія святы. У выніку, за перыяд назіранняў, агульнае перавышэнне тэмпаў росту рэальнага тавараварoту над тэмпамі росту рэальнай заработнай платы склала 40,5 працэнтных пункта.

Во дзе прастора дзеля памяці і роздуму штатных аптымістаў і аптымістаў «в штатском». ■

# Мадэрнізаваная ВДНГ

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

**Нацыянальны выставачны цэнтр «Белэкспа» падвёў вынікі двухгадовай працы.**

З 1968 года гэта была Выстава дасягненняў народнай гаспадаркі, рэарганізаваная ў 1993 годзе ў Рэспубліканскі выставачны цэнтр. У 1996 годзе ён перайменаваны ў Нацыянальны з выставачнымі плошчамі ўжо 2 павільёнаў: да будынка па вуліцы Я.Купалы,27 дадаўся выставачны комплекс на праспекце Машэрава,14. Зараз разам з тэнтавым павільёнам гэта 9.000 кв.м. А ў планах бліжэйшых некалькіх гадоў будаўніцтва па Машэрава яшчэ аднаго выставачнага павільёна на 5.000 кв.м. Яго ўзвядзенне абыдзецца ў 2 мільёны долараў. Прадугледжваецца таксама рэканструкцыя колішняга будынка ВДНГ, які за больш як 30 гадоў зношаны, як сказаў дырэктар «Белэкспа» Аляксей Лазука, на 100%.

Збольшага дзякуючы менавіта той акалічнасці, што «Белэкспа» не траціцца на арэнду памяшканняў пад выставы, бо мае ўласныя плошчы, яно ёсць самаакупляльным прадпрыемствам і сёлета зарабіла дзяржаве каля 1.400 мільярдаў рублёў. 50% ад гэтай сумы прынесла непасрэдная арганізацыя выставаў, 30% — здача вольных выставачных плошчаў у арэнду. Па словах А.Лазукі, арэнда 2.000 кв.м. каштуе 30 тысячаў долараў.

У 2000 годзе «Белэкспа» наладзіла 17 выставаў, на наступны плануе правесці 19. Сёлета на выставах працавала 1.750 прадпрыемстваў, экспазіцыі наведала 238 тысячаў чалавек. Самай папулярнай выставай стала «Аўташоу» з 52 тысячамі наведвальнікаў.

«Белэкспа» амаль выключна працуе ў Мінску, як прызнаецца ягоны дырэктар, ад правядзення выставаў у рэгіёнах эканамічнай выгады няма. Вельмі дорага каштуе дастаўка і мантаж-дэмантаж экспазіцыяў, а ўдзельніцкія зборы пры гэтым там невялікія. Плён ад такіх выставаў адно што ў наладжванні сувязяў з фірмамі Літвы і Польшчы.

З увядзеннем у дзеянне Дзяржаўным падатковым камітэтам «Інструкцыі аб парадку збору падатку на даходы замежных юрыдычных асобаў ад рэалізацыі тавараў на выставах, выставах-продажах і кірмашах» іх экспазіцыйны ўдзел у выставах, што праводзяцца ў Беларусі, стала скарачаецца. Гэты дакумент прадугледжвае, што, нават не прадаўшы экспанат, замежныя фірмы павінны сплочваць 10% падатку ад яго мытнай вартасці ў СКВ.

Да ўсяго не стае спецыялістаў выставачна-кірмашовай дзейнасці, адмысловыя кафедры ёсць толькі ў асобных вышэйшых навучальных установах Расіі. Няма нават закона аб выставачнай дзейнасці і працэдуры яе ліцэнзавання. ■

# Беларусы хочуць працаваць за мяжой

**Кірыла КАРЫМОНТ**

**Паводле сацыялагічных даследаванняў, прыкладна да 40% эканамічна актыўных беларусаў хацелі б папрацаваць за мяжой і зарабіць прыстойныя грошы. Разам з тым працаўладкаванне за мяжой ёсць адным з вырашэнняў праблемы беспрацоўя ў краіне.**

У Беларусі дзейнічаюць 46 фірмаў, што маюць дзяржаўную ліцэнзію займацца працаўладкаваннем нашых суайчыннікаў у іншыя краіны. 60 легальна існуючых фірмаў, наадварот, прывозяць замежную рабочую сілу да нас. Пры гэтым за 9 месяцаў 2000 года на тэрыторыі Беларусі працавала ўсяго толькі 118 замежных грамадзянаў, а вось беларусаў выязджала з гэткімі мэтамі за мяжу 2.793 чалавекі, з іх 1.567 менчукоў.

Пераважна едуць у Расію, Украіну, Нямеччыну, Францыю і ЗША – часцей за ўсё гувернанткамі, кіроўцамі і асабліва будаўнікамі. Беларусы ўяўляюць сабой вельмі танную рабочую сілу, на тых умовах і за тыя грошы, працаваць на якіх тамтэйшае насельніцтва нават і не думае. Народу на заробкі за мяжу выпраўлялася б і паболей, аднак там прыхадням ставяць дастаткова багата абмежаванняў для працаўладкавання. Бо, напрыклад, у дзяржавах ЕС маецца звыш 15 мільёнаў сваіх беспрацоўных.

Тым не менш пачынаючы з сярэдзіны 90-ых колькасць ад'язджаючых працаваць за мяжу беларускіх грамадзянаў стала павялічваецца: у 1994 годзе – прыкладна 1.300 чалавек, у 1995 годзе – 1.700, у 1996 годзе – 2.000, у 1997 і 1998 гадах – ужо па 3.200. Столькі ж будзе і сёлета.

А вось статыстыкі, колькі беларусаў штогод працуюць за мяжой нелегальна, у Камітэце па міграцыі не маюць. Праўда, рэгулярна адсочваецца рэкламная інфармацыя аб пасярэдніцтве ў працаўладкаванні, якая з'яўляецца ў СМІ, бо Закон аб знешнепрацоўнай міграцыі прадугледжвае абавязковае ўзгадненне з Камітэтам па міграцыі рэкламнай прадукцыі, што тычыцца ад'езду на працу за мяжу. Як кажа загадчыца міграцыйнай службы камітэта па працы Мінгарвыканкама Таццяна Тумашык, «мы звязваемся з такімі фірмамі, рэкамендуем звяртацца да нас па пытанні кансультацыі, як атрымаць ліцэнзію, калі яны сапраўды збіраюцца гэта рабіць. Калі ж гэтыя фірмы дастаткова ненадзейныя, мы звяртаемся ў міністэрства ўнутраных справаў, у аддзелы па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю».

Аднак усе выпадкі небяспечнага працаўладкавання папярэдзіць не ўдаецца. Напрыклад, толькі за апошні год з еўрапейскіх краінаў за прастытуцыю было дэпартавана больш сотні беларускіх дзяўчат. Таму Камітэт па міграцыі з траўня 2000 года ўвёў ліцэнзаванне фірмаў, што займаліся працаўладкаваннем у разнастайныя замежныя клубы і шоу. Цікава, што пакуль па дзяржаўную ліцэнзію звярнулася толькі адна фірма, якая прапаноўвала такія паслугі. ■

**Зміцер БАНДАРЭНКА, каардынатар аргкамітэта Хартыі'97:**

**1.** Мужнасці і веры ў свае сілы, бо перад усімі намі стаяць грандыёзныя задачы. Я думаю, што да кастрычніка 2001 года дыктатуры на Беларусі не будзе.

**2.** Ворагам я жадаю задумацца аб сваім месцы ў жыцці і аб лёсе сваіх блізкіх, закрэсліць усё злое і пачаць жыццё спачатку.

**3.** Сабе я б пажадаў таго ж самага, што і сваім сябрам.

# З бульбы ў картошку ды назад

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

Сёння яднанне мае пад сабой не толькі ідэйныя ды маральныя падставы, але і матэрыяльную ў выглядзе так званай глабалізацыі. Карацей, сёння на самай справе існуе інтэрнацыянал аб якім марылі класікі марксізму. Але ў іх нічога не атрымалася, бо натуральны інтэрнацыянал можа існаваць толькі тады, калі ў ім будуць прадстаўленыя ўсе сацыяльныя акцёры, а не адны толькі пралетарыі. Бо на самай справе, калі «пануе» адзін толькі пралетарыят, то ўсе думкі ў грамадстве зводзяцца да адной: дзе дастаць таннай каўбасы. На іншае энергіі не хапае. А грамадства, у якім жывуць толькі адны «эксплуататары», увогуле існаваць не можа, таму што няма каго эксплуатаваць, няма каму прадаваць тавары, няма з каго выціскаць дадатковую вартасць.

У інтэрнацыянале можна жыць і добра, і кепска. Прыкладам, калі расце курс акцыяў на біржах Амерыкі ды Японіі, то эканоміка ва ўсім свеце набывае дадатковы імпульс. Тады актывізуецца інвестыцыйны працэс, ствараюцца рабочыя месцы і растуць заробкі працоўных, а таксама паўсюдна дывідэнды ўласнікаў. За выключэннем тых краінаў, якія стаяць на пазіцыях ізаляцыянізму, супраціўляюцца глабалізацыі. Але затое ў выпадку біржавага краху – наадварот.

Сёння такіх краінаў амаль няма. Нават у Афрыцы. А тых, што ёсць, можна пералічыць па пальцах: Паўночная Карэя, Куба... Да гэтага спісу трэба дадаць краіны, супраць якіх уведзеныя эканамічныя санкцыі міжнароднай супольнасцю, прыкладам, Ірак, Іран, Лівію і Беларусь. Наша краіна, складаецца такое ўражанне, сама ўсё робіць, каб трапіць у ізаляцыю. Вось вам прыклад. У ліпені бягучага года кіраўніцтва Злучаных Штатаў, прааналізаваўшы знешні і ўнутраны палітычныя курсы нашага кіраўніцтва, аб'явіла аб скасаванні для Беларусі прэферэнцыяў у гандлі з ЗША. А Лукашэнка ў адказ заяўляе, што Амерыка згубіць на гэтым значна больш, чым Беларусь. Што тут казаць. Адсядзімся ў бульбе?

Калі некалькі чалавек збіраюцца дзеля таго, каб стварыць гурток філатэлістаў, то ў сваё кола яны прымаюць менавіта філатэлістаў, а не калекцыянераў гарэлачных этыкетак. Калі нашы суседзі вырашылі прымкнуць да кола еўрапейскіх краінаў, то яны змушаныя рабіць усё так, як у Еўропе, а не ў Азіі. Прынамсі, ствараць такія ўмовы для гаспадарання, каб эканоміка сапраўды была эфектыўнай і людзі з тае нагоды памнажалі свой дабрабыт. А гэта значыць, карэнным чынам змяняць парадак рэчаў і парадак мыслення. Параўнайце: Галандыя ламае галаву над тым, як скараціць сельскагаспадарчую вытворчасць, бо вырабляе яе аж занадта, а ў нас абы адсеяцца. Затое нашы паказчыкі з кожным разам усё лепшыя, але на харчаванне патрэбна ўсё болей грошай.

А іх усё меней, бо апошнім гадам, калі ў асобных галінах прамысловасці і на асобных прадпрыемствах падвышаліся рэальныя заробкі, быў 1997-ы. Тады зарплата ў аўтамабільным і сельскагаспадарчым машынабудаванні за год вырасла з 80,6 да 102,7 долараў, а на акцыянерным прадпрыемстве БАТЭ ў Барысаве дасягнула амаль касмічнай па нашых мерках вышыні — 163,5 долараў. Хто зараз можа пахваліцца такімі грашыма?

Такое падвышэнне заробкаў было апошнім наступствам сутаргавай, але ўсё ж рыначнай рэформы, асновы якія былі закладзеныя папярэднікамі Лукашэнкі і папрацавалі на яго, дазволіўшы выйграць два рэферэндумы. Нават сярэдні заробак, тут праўду казаў Міхаіл Чыгір, паднялася да 100 долараў. Не шмат, скажаце. Але ж гэта на 40 долараў болей, чым сёння, і нават болей, чым у Расіі, дзе сярэдняя зарплата ў верасні склала 84 долары. Сёння Лукашэнка абяцае падняць зарплату да той вышыні, якую ён не змог і хацеў утрымаць. Бо яго падыход да жыццёвага ўзроўню насельніцтва вядомы: каб не ніжэй калена. А ў гэткім стане адно з двух: ці задніца голая, ці ногі мерзнуць. Адным словам, дзе браць грошы, калі іх не зарабляць? Кажуць, Расія дае аж 100 мільёнаў. Сапраўды дае. Па 10 долараў на кожнага беларуса, з якіх ці не большая частка ўсё ж такі прыліпне да рук барацьбітоў з мафіяй. Бо навошта ім «распыляць сродкі»? Куды лепш сабраць іх да кучы і біць адным кулаком у адну кропку.

Зразумела, Расія вялікая па памерах краіна і вельмі неаднародная ва ўсіх сэнсах. Не толькі ў кліматычным, але і ў сацыяльным сэнсе яна падзеленая на пустэчы і аазісы, паміж якімі і высокія сцены, і натуральныя прорвы. Прыкладам, у Маскве сканцэнтравана каля паловы ўсіх замежных інвестыцыяў, Масква кантралюе большую долю фінансавых патокаў, тут віруе капіталізм расійскага ўзору і купецкага размаху. Ёсць і іншыя «ачагі капіталізму» ў змучанай, знясіленай краіне, сродкам існавання насельніцтва якой з'яўляецца дзікунская натуральная гаспадарка. Літаральна, што знайшоў, тое і з'еў. Таксама як і ў нас, хоць мы цалкам жывем у геаграфічнай Еўропе, а большасць Расіі — гэта Азія. Але ўся розніца ў тым, што ў нас расце бульба, а ў іх картошка. Таму мы і сноўдаемся, як той заяц, якога выгналі з бульбы, а ён бяжыць хавацца «ў картошку».

Па дадзеных польскага статыстычнага ведамства, у мінулым годзе сярэдняя зарплата ў народнай гаспадарцы склала больш за 400 долараў, а ў асобных галінах прамысловасці нават прыблізілася да 800 у. а. Гэта значыць, што работнікі вышэйшай кваліфікацыі маюць і больш тысячы. Параўнайце з нашымі «даходамі» і ўбачыце, што паміж Беларуссю і Польшчай замест сцяны з'явілася бездань, якую не так адразу і пераскочыш... ■

Рэдакцыя прапаноўвае сваім падпісчыкам аплаціць падпіску праз аддзяленні ААБ «Беларусбанка».

Для аплаты падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляць газету.

**Кошт падпіскі на адзін месяц 1040 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на большы тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

*Рэдакцыя газеты прыносіць прабачэнні ААБ «Беларусбанка» за недакладнае пазначэнне банкаўскай паслугі.*

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

Форма № ПД-5

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 **Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(индекс) (адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**За подписку на газету «Наша СВАБОДА»** Сумма

Пеня

Плательщик Всего

Кассир

УНН 101562750 **Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17.
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**КВИТАНЦИЯ**

**За подписку на газету «Наша СВАБОДА»** Сумма

Кассир

Пеня

Плательщик Всего

## ПОНЕДЕЛЬНИК • 1 ЯНВАРЯ

**07.05** **«АХ, ВОДЕВИЛЬ, ВОДЕВИЛЬ...»** Худ. фильм (ТО «Экран»).
**08.10** «Все мы родом из детства». IV Всебелорусский фестиваль юных талантов. Гала-концерт лауреатов. Часть 1-я.
**09.00** «Панночка таланта». VIII Международный детский творческий конкурс «Мини-мисс мира-2000».
**10.15** **«ВАРВАРА-КРАСА, ДЛИННАЯ КОСА»**. Фильм-сказка (к/с им.М.Горького).
**11.35** Мультиклуб.
**12.05** Премьер-парад.
**12.55** Л.де Фюнес и Бурвиль в комедии **«БОЛЬШАЯ ПРОГУЛКА»** (Франция).
**15.00** Новости.
**15.10** К 45-летию Белорусского телевидения. «Показывает Беларусь».
**15.55** А.Абдулов, С.Фарада, А.Захарова в эксцентрической комедии **«ФОРМУЛА ЛЮБВИ»** («Мосфильм»).
**17.25** «Фестивалия-2000». Музыкальная программа.
**18.15** **«НОВЫЙ ГОД В НОЯБРЕ»**. Худ. фильм (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.35** Премьера худ.фильма Л.Бессона **«ТАКСИ»** (Франция).
**23.10** Планета «АРТ».

---

**06.30** Фильм-сказка **«КОНЕК ГОРБУНОК»**.
**07.35** Лучшие новогодние мультики.
**08.30** Играй, гармонь любимая!
**09.00** Новости.
**09.10** Поле чудес.
**10.10** Мультсериал «Незнайка на Луне».
**10.35** «С легким паром!».
**11.10** Комедия **«ИГРУШКА»**.
**12.50, 14.10** «Огни большого города».
**14.00** Новости.
**15.05** Комедия **«БЭЙБ»**.
**16.45** «Ералаш».
**17.00** Новости.
**17.15** Комедия **«ОСОБЕННОСТИ НАЦИОНАЛЬНОЙ ОХОТЫ В ЗИМНИЙ ПЕРИОД»**.
**18.35** Песня-2000.
**22.10** Боевик **«ГЛАЗА ЗМЕИ»**.
**23.50** Комедия **«ЖАНДАРМ ЖЕНИТСЯ»**.

---

**06.30** «Сказка о веселом Драконе». Мультфильм.
**07.35** Музыкальный фильм-оперетта **«СИЛЬВА»**.
**10.05** «Городок».
**11.15** Новогодняя музыкальная программа «Проснись и пой».
**12.55** «Каламбур».
**14.00** Комедия **«АСТЕРИКС И ОБЕЛИКС ПРОТИВ ЦЕЗАРЯ»**.
**15.55** Комедия **«НЕСПРАВЕДЛИВО ОБВИНЕННЫЙ»**.
**17.25** Шоу «Арлекин».
**19.00** Вести.
**19.30** Фильм **«СИБИРСКИЙ ЦИРЮЛЬНИК»**.
**22.35** Фильм **«СТУДИЯ 54»**.
**00.10** Прогноз погоды.

---

**09.05** «Двенадцать месяцев». Мультфильм.
**09.55** «Фантазеры».
**10.40** Киноконцерт.
**11.35** **«ПИНОККИО»**. Худ. фильм 1-2-я серии.
**12.35** «Щелкунчик».
**13.30** «Архангельские новеллы». Мультфильм.
**13.45** Новогодние истории. Ольга Волкова.
**14.00** «Мегрэ и старая дама». Телеспектакль. Часть 1-я.
**15.20** «Мегрэ и старая дама». Телеспектакль. Часть 2-я.
**16.35** Новогодние истории. Михаил Козаков.
**16.50** «Сказка о царе Салтане». Мультфильм.
**17.40** «Вспоминая Раневскую». Док. фильм.
**18.40** Новогодние истории. Юлия Рутберг.
**18.55** «Созвездие XX-го...» Концерт.
**19.45** «Вечерняя сказка».
**19.55** Мультсериал.
**20.05** Новогодние истории. Роман Виктюк.
**20.25** «Кто там...».
**21.00** Новости культуры.
**21.20** «Личные воспоминания о большой жизни».
**21.25** **«ДВЕНАДЦАТАЯ НОЧЬ, ИЛИ ЧТО УГОДНО»**. Худ. фильм.

---

**07.00** Сегодня.
**07.20** «Новый год на Улицах разбитых фонарей».
**09.25** Любимые мелодии XX века.
**11.00** Сегодня.
**11.25** Прогноз погоды.
**11.30** Служба спасения.
**12.00** Комедия **«ИЗ ДЖУНГЛЕЙ В ДЖУНГЛИ»**.
**13.55** Мультфильм «Приключения в Изумрудном городе».
**15.00** Сегодня.
**15.25** Комедия **«ЗАВТРАК У ТИФФАНИ»**.
**17.30** «Итого».
**17.55** Прогноз погоды.
**18.00** Сегодня.
**18.35** Фильм **«ОСТРОВ ГОЛОВОРЕЗОВ»**.
**21.00** Сегодня.
**21.45** Фильм **«2001 ГОД: КОСМИЧЕСКАЯ ОДИССЕЯ»**.

---

**07.00** Мультфильмы.
**07.45** «Шоу Бенни Хилла».
**08.30** ДИСК-канал. «Крутятся диски».
**09.30** Комедия **«ИРОНИЯ СУДЬБЫ, ИЛИ С ЛЕГКИМ ПАРОМ!»**.
**12.55** «Мое кино».
**14.35** Фильм **«МНИМЫЙ БОЛЬНОЙ»**.
**16.55** «Вы - очевидец».
**18.00** «Петерс поп-шоу» - финал.
**19.00** Фантастический фильм **«ГРЕМЛИНЫ»**.
**21.05** Дорожный патруль.
**21.20** Концерт «Backstreet Boys».
**23.10** Фильм ужасов **«СНЕГОВИК»**.

---

**14.00** Мультфильм «Лебединое озеро».
**15.15** Худ. фильм **«О БЕДНОМ ГУСАРЕ ЗАМОЛВИТЕ СЛОВО»**, 1-2-я серии.
**18.00** Программа Кеннета Коупленда.
**18.30** «Эклектик»-шоу.
**19.30** «СТВ - 24 часа».
**19.45** Клип-парад (Вспоминая 2000).
**20.25** «Вечарніца».
**20.40** Ай-да «Новости».
**20.55** Комедия **«МЫШИНАЯ ОХОТА»**.
**22.30** Худ. фильм **«ТРИНАДЦАТЫЙ ВОИН»**.
НОЧНОЙ КАНАЛ
**00.10** Ай-да «Новости».
**00.20** Худ. фильм **«ПЛАНКЕТ И МАКЛЕЙН»**.
**01.50** «СТВ - 24 часа».

---

Для абонентов СП «Космос ТВ» передачи транслируются на русском языке.
**09.30** Легкая атлетика. Олимпийские Игры. Лучшее.
**10.00** Плавание. Олимпийские Игры. Лучшее.
**10.30** Дух Олимпийский Игр.
**11.00** Легкая атлетика. Олимпийские Игры. Лучшее.
**11.30** Олимпийские Игры в Сиднее.
**12.00** Лыжи, трамплин. Кубок мира. Германия.
**13.30** Евроспорт специальный.
**15.30** Трикшот. Снукер. Шотландия.
**17.30** Синхронное плавание. Швейцария.
**18.30** Лыжи, трамплин. Кубок мира. Германия.
**20.30** Спидвей. Master of Spikes. Германия.
**21.30** Футбол. Один мир - один кубок.
**22.30** Бокс.
**23.30** Ралли. Париж - Дакар 2001.
**00.00** Лыжи, трамплин. Кубок мира. Германия.
**02.00** Ралли. Париж - Дакар 2001.

## ВТОРНИК • 2 ЯНВАРЯ

**07.05** Худ. фильм Л.Бессона **«ТАКСИ»** (Франция).
**08.35** «Доктор Айболит». Мультфильмы.
**09.15** «Все мы родом из детства». IV Всебелорусский телефестиваль юных талантов. Гала-концерт лауреатов. Часть 2-я.
**10.00** **«СКАЗКА ПРО ЗВЕЗДНОГО МАЛЬЧИКА»**. Худ. фильм для детей («Беларусьфильм»). 1-я и 2-я серии.
**12.10** «Однажды, на Рождество...» Музыкально-развлекательная программа с участием артистов белорусской эстрады.
**13.00** Комедия режиссера Л.Гайдая **«БРИЛЛИАНТОВАЯ РУКА»** («Мосфильм»).
**14.35** 25-й кадр.
**15.00** Новости.
**15.15** Семейный кинозал. **«СТРАНА ОБЕЗЬЯН»**. Худ. фильм (Франция).
**16.40** «Спящая красавица». Балет Национального Парижского оперного театра в постановке Р.Нуриева (Международный Французский Канал).
**19.10** Премьера телеэкрана. Н.Расторгуев и В.Пельш в мюзикле **«НА БОЙКОМ МЕСТЕ»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.35** Дж.Ормонд и Г.Бирн в триллере **«СНЕЖНОЕ ЧУТЬЕ СМИЛЛЫ»** (США).
**23.35** «Блюз, любовь и саксофон». Музыкальная программа.

---

**07.00** Новости.
**07.10** Мультсеанс.
**07.30** Фильм **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПИНОККИО»**.
**09.00** Новости.
**09.10** «Ералаш».
**09.45** «Что? Где? Когда?». Финал.
**11.15** Мультсериал «Незнайка на Луне».
**11.40** Комедия **«БОЛЬШАЯ ПРОГУЛКА»**.
**14.00** Новости.
**14.15** Новогодние приключения «Ускоренной помощи».
**15.00** Песня-2000. Часть 2-я.
**17.00** Новости.
**18.55** Премьера. **«УБОЙНАЯ СИЛА - 2». КОМЕДИЯ «КРЕДИТ ДОВЕРИЯ»**.
**20.00** Время.
**20.40** Ураганный фильм **«СМЕРЧ»**.
**22.30** Фильм **«ПОСЛЕДНИЙ РАУНД»**.

---

**06.30** Мультфильмы.
**06.45** **«РУСЛАН И ЛЮДМИЛА»**. Фильм для детей.
**09.15** Прогноз погоды.
**09.20** Доброе утро, страна.
**10.10** «Аншлаг» на Волге.
**13.00** Вести.
**13.20** **«ЕСЕНИЯ»**. Худ. фильм.
**15.35** «Это несерьезно».
**17.15** Фильм **«ФАНТОМ»**.
**19.00** Вести.
**19.30** Михаил Задорнов. «Неюбилей».
**22.50** Комедия **«АМЕРИКАНСКИЙ ПИРОГ»**.
**00.35** Прогноз погоды.

---

**09.05** Мультфильмы.
**10.10** Концерт Большого детского хора.
**10.40** «Не смехом единым».
**11.35** **«ПИНОККИО»**. Худ. фильм. 3-4-я серии.
**12.30** «Серебряная фантазия».
**12.45** «Цитаты из жизни».
**13.30** Новости культуры.
**13.45** «Декабрьские вечера».
**14.30** Сценограмма.
**15.00** **«ПРИНЦ И НИЩИЙ»**. Худ. фильм.
**16.45** «Праздник новогодней ёлки». Мультфильм.
**17.50** «Вспоминая Раневскую». Док. фильм. Фильм 2-й.
**19.00** «Вечерняя сказка».
**19.10** Мультсериал.
**19.20** «Париж поет Франсиса Лемарка».
**20.15** «Евгения Ханаева. Опоздавшая любовь».
**21.00** Новости культуры.
**21.20** «Личные воспоминания о большой жизни».
**21.25** **«РОЗЫГРЫШ»**. Худ. фильм.
**22.55** Мультфильмы.

---

**07.00** Сегодня.
**07.15** Комедия **«РАССЕЯННЫЙ»**.
**08.45** Мультфильм «Умка».
**09.00** Сегодня.
**09.20** Намедни-2000.
**10.15** Мультфильм «Бременские музыканты».
**11.00** Сегодня.
**11.25** Фильм-сказка **«МОРОЗКО»**.
**13.00** «О, счастливчик!».
**14.35** Мультфильм «Трое из Простоквашино».
**15.00** Сегодня.
**15.30** Большие родители.
**16.05** Комедия **«ЭРКЮЛЬ И ШЕРЛОК ПРОТИВ МАФИИ»**.
**18.00** Сегодня.
**18.40** Комедия **«ХОЧУ В ТЮРЬМУ»**.
**20.35** Куклы.
**21.00** Сегодня.
**21.45** Боевик **«ПОКРОВИТЕЛЬ»**.
**23.35** «Антропология».

---

**06.00** Дорожный патруль.
**06.10** Мультфильмы.
**06.50** «Шоу Бенни Хилла».
**07.50** Комедия **«ДУЭНЬЯ»**.
**09.35** Новогоднее шоу «Семья 2000».
**11.40** Комедия **«ДОН СЕЗАР ДЕ БАЗАН»**.
**14.20** Ток-шоу «Я сама».
**15.35** Дорожный патруль.
**15.50** «СВ-шоу». «Ляпис Трубецкой».
**16.55** Комедия **«ОПЕРАЦИЯ «С НОВЫМ ГОДОМ!»**.
**19.00** Фантастический фильм **«ГРЕМЛИНЫ-2. НОВЫЙ ВЫВОДОК»**.
**21.05** Триллер **«НЕМОЙ КРИК»**.
**23.10** Дорожный патруль.
**23.30** Фильм **«ЭСКОРТ»**.
**01.05** Дорожный патруль.

---

**17.30** Мультфильм «Летучий корабль».
**17.50** «Телемагазин».
**18.00** Программа Кеннета Коупленда.
**18.30** Музыкально-развлекательная программа.
**18.45** «К-видео Топ-8».
**19.00** «Автопанорама».
**19.05** «8 самых...».
**19.15** «Денежки».
**19.20** «Виртуальный мир».
**19.30** «СТВ - 24 часа».
**19.45** Боевик **«СМЕРТЕЛЬНАЯ БИТВА»**.
**20.25** «Вечарніца».
**20.40** Новости.
**20.55** Сериал «Княжна Дейзи».
**21.45** Телемагазин.
**21.50** Худ. фильм **«МЕРКУРИЙ» В ОПАСНОСТИ»**.
НОЧНОЙ КАНАЛ
**23.50** Новости.
**00.00** В баре «У Олега».
**00.45** «Бильярдный клуб».
**01.05** Звезды в ночи. «Natura Poetica».
**01.50** «СТВ-24 часа»

---

Для абонентов СП «Космос ТВ» передачи транслируются на русском языке.
**09.30** Ралли. Париж - Дакар 2001.
**10.00** Бокс.
**12.00** Синхронное плавание. Швейцария.
**13.00** Лыжи, трамплин. Кубок мира. Германия.
**14.00** Лыжи, трамплин. Кубок мира. Германия.
**15.30** Фигурное катание.
**17.00** Теннис. Турнир АТР. Катар.
**21.00** Экстремальные виды спорта.
**21.30** Бокс.
**23.30** Ралли. Париж - Дакар 2001.
**00.00** Новости. Спортцентр.
**00.15** Мотоцикл. Внедорожный журнал.
**01.15** Мотоспорт. Мотор Мэднесс. США.
**01.45** Ралли. Париж - Дакар 2001.
**02.15** Новости. Спортцентр.

## СРЕДА • 3 ЯНВАРЯ

**06.30** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.10** Доброе утро, Беларусь!
**08.10** «Лейтенант Хорнблоу». Сериал (Англия).
**09.00** Новости.
**09.15** «Легенда о Вильгельме Теле». Сериал для детей (Англия).
**09.40** Мультиклуб.
**10.10** 25-й кадр.
**10.30** «Барахты из бухты».
**11.00** Новости.
**11.15** «Все мои дети». Сериал.
**12.00** Мультфильм.
**12.10** «Все мы родом из детства». IV Всебелорусский телефестиваль юных талантов. Гала-концерт лауреатов. Часть 3-я.
**13.00** Новости.
**13.10** **«ПОСЛЕДНЕЕ ЛЕТО ДЕТСТВА»**. Худ. фильм («Беларусьфильм»). 1-я серия.
**14.15** «Ящик сокровищ для детей будущего». Международный телевизионный сериал (Беларусь).
**14.40** Уроки Н.Новожиловой.
**15.00** Новости .
**15.10** «Симба-футболист». Мультсериал (Италия).
**15.35** «Легенда о Вильгельме Теле». Сериал для детей (Англия).
**16.05** «5 x 5». Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.
**17.00** «Все мои дети». Сериал.
**18.00** Новости.
**18.15** «И другие официальные лица».
**18.25** Зона Икс.
**18.40** Дж.Бриджис в приключенческом худ.фильме **«БЕЛЫЙ ШКВАЛ»** (США).
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.30** Событие.
**21.45** Спорт-курьер.
**22.00** Спонсор показа - фотомагазины Фокус-Кодак. «Лейтенант Хорнблоу». Сериал (Англия).
**22.45** «Встреча в Троицком» с Александром Домарацким.
**23.10** Новости.
**23.25** «СТВ-24 часа».

---

**08.00** Новости.
**08.15** «Вавилонская башня». Сериал.
**10.15** Новогодние приключения «Ускоренной помощи».
**11.00** Новости.
**14.00** Новости.
**14.20** Звездный час.
**14.45** ...До шестнадцати и старше.
**15.30** Мультсериал «Покемон».
**15.55** Сериал «Воздушные замки».
**17.00** Новости.
**17.25** «Все путешествия команды Кусто».
**17.55** Приключенческий фильм **«ГРАФ МОНТЕ-КРИСТО»**. 1-я серия.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** Комедия **«АЭРОПЛАН»**.
**22.20** «Цивилизация».
**22.55** Новости.
**23.10** Фильм **«СУВЕНИР ДЛЯ ПРОКУРОРА»**.

---

**08.00** Вести.
**08.15** Доброе утро, Россия.
**08.35** «Телепузики».
**09.00** «Мануэла». Сериал.
**10.00** Вести.
**10.30** «Санта-Барбара». Сериал.
**16.00** Вести.
**16.30** «Чародей. Страна Великого дракона». Сериал.
**18.00** «История любви». Сериал.
**19.00** Вести.
**19.30** Семен Альтов. «Обо всем!».
**19.50** Фильм-эпопея Сергея Бондарчука **«ВОЙНА И МИР»**.
**22.35** Фильм **«НОЧЬ ВОПРОСОВ»**.
**00.25** Прогноз погоды.

---

**09.05** «Пассажир поезда №12. Воспоминания о Льве Толстом». Док. фильм.
**09.55** И.Стравинский. «Весна священная».
**10.35** **«СЕКРЕТНЫЙ АГЕНТ»**. Худ. фильм. 1-я серия.
**11.30** Новости культуры.
**11.40** «Шерлок Холмс и Алая комната». Мультфильм.
**12.30** Поклонникам Терпсихоры.
**12.45** Н.Рубцов. «Я вспоминаю сердцем посветлев...».
**13.30** Новости культуры.
**13.45** «Последний лепесток». Мультфильм.
**14.10** «Раскаявшийся Волк и другие народные сказки». Телеспектакль.
**14.45** «Вместе с Фафалей».
**15.00** Новости.
**15.10** «Маленький бродяга». Сериал.
**15.40** «Николай Чарушин. История в человеке». Док. фильм.
**16.10** «Консилиум».
**16.35** **«СЕКРЕТНЫЙ АГЕНТ»**. Худ. фильм. 1-я серия.
**17.30** Новости культуры.
**17.40** Л.Бетховен. Концерт для скрипки с оркестром.
**18.30** «Реформы по-русски».
**18.55** «Вечерняя сказка».
**19.05** Мультсериал.
**19.30** Новости культуры.
**19.50** «Простые вещи».
**19.55** «Пассажир поезда №12. Воспоминания о Льве Толстом». Док. фильм.
**20.45** После новостей.
**21.05** **«ОЖИВШИЕ ПОЛОТНА»**. Худ. фильм. 1-я серия.
**22.35** «Ограбление по...» Мультфильм для взрослых.
**23.00** Новости культуры.

---

**07.00** Сегодня.
**07.15** Наше новое кино.
**09.00** Сегодня.
**09.25** Наше новое кино.
**10.15** Герой дня без галстука.
**11.00** Сегодня.
**11.35** Сериал «Шерлок Холмс и доктор Ватсон».
**13.00** Сегодня.
**13.25** Сериал «Шерлок Холмс и доктор Ватсон».
**14.40** «Свидетель века».
**15.00** Сегодня.
**15.30** Сериал «Элен и ребята».
**16.35** Впрок.
**17.00** Сериал «Страсть».
**18.00** Сегодня.
**18.40** Сериал «Скорая помощь».
**19.40** «300 лет Новому году».
**20.35** Профессия - репортер.
**21.00** Сегодня.
**21.45** Тушите свет.
**21.55** Фильм **«ХАКЕРЫ»**.
**23.55** «Антропология».

---

**05.55** Дорожный патруль.
**06.05** День за днем.
**08.05** Фильм **«ДВЕНАДЦАТЬ МЕСЯЦЕВ»**, 1-я серия.
**09.25** «Все в сад!».
**10.10** Катастрофы.
**11.05** «Пальчики оближешь».
**11.35** Телемагазин в Минске.
**11.50** День за днем.
**13.30** «Петерс поп-шоу» - финал.
**14.35** Сериал «Тропиканка».
**15.35** Телемагазин в Минске.
**15.50** Телемагазин в Минске.
**17.05** Сериал «Женаты... С детьми...».
**17.40** Дорожный патруль.
**17.55** «Наши любимые животные».
**18.30** «Петерс поп-шоу».
**19.00** Новости дня.
**19.20** Ток-шоу «Я сама».
**20.25** Боевик **«РЭЙНДЖЕРЫ»**.
**22.25** Дорожный патруль.
**22.45** Триллер **«ИСТОРИЯ ВЕРШИТЬСЯ НОЧЬЮ»**.
**00.30** ДИСК-канал.
**01.00** Дорожный патруль.

---

**17.30** Мультфильм «Молодильные яблоки».
**17.50** «Телемагазин».
**18.00** Программа Кеннета Коупленда.
**18.30** Музыкально-развлекательная программа.
**18.45** «К-видео Топ-8».
**19.00** «Автопанорама».
**19.05** «8 самых...».
**19.15** «Денежки».
**19.20** «Виртуальный мир».
**19.30** «Гурман-клуб».
**19.50** Боевик **«СМЕРТЕЛЬНАЯ БИТВА»**.
**20.25** «Вечарніца».
**20.40** Новости.
**20.55** Сериал «Княжна Дейзи».
**21.45** Телемагазин.
**21.50** Триллер **«ПРОСЧЕТ»**.
НОЧНОЙ КАНАЛ
**23.50** Новости.
**00.00** «К-видео» для взрослых.
**00.20** Сериал «Горец».

---

Для абонентов СП «Космос ТВ» передачи транслируются на русском языке.
**09.30, 23.30, 01.45** Ралли. Париж - Дакар 2001.
**10.00** Сани. Кубок мира. Австрия.
**10.30** Северная лыжная комбинация. Кубок мира. Германия.
**11.15** Лыжи, трамплин. Кубок мира. Германия.
**12.45** Северная лыжная комбинация. Кубок мира. Германия.
**15.00** Сани. Кубок мира.
**15.30, 21.30** Фигурное катание.
**17.00** Теннис. Турнир АТР. Катар.
**19.00** Лыжи, трамплин. Кубок мира. Австрия.
**20.30** Северная лыжная комбинация. Кубок мира. Германия.
**00.00, 02.15** Новости. Спортцентр.
**00.15** Лыжи, трамплин. Кубок мира. Австрия.

## ЧЕТВЕРГ

**06.30** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.10** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** «Лейтенант Хорнблоу». Сериал (Англия). Заключительная серия.
**09.00** Новости.
**09.10** «Легенда о Вильгельме Теле». Сериал для детей (Англия).
**09.35** КВН. Полуфинал Евролиги.
**11.00** Новости.
**11.10** «Все мои дети». Сериал.
**11.55** «Праздник пива». Док. фильм о рождественских блюдах («Белвидеоцентр»).
**12.10** «Все мы родом из детства». IV Всебелорусский телефестиваль юных талантов. Гала-концерт лауреатов. Часть 4-я.
**13.00** Новости.
**13.15** **«ПОСЛЕДНЕЕ ЛЕТО ДЕТСТВА»**. Худ. фильм («Беларусьфильм»). 2-я серия.
**14.25** Фильмы братьев Люмьер (Международный Французский Канал). 76-80-я серии.
**14.30** Большой завтрак.
**15.00** Новости.
**15.10** «Симба-футболист». Мультсериал (Италия).
**15.35** «Легенда о Вильгельме Теле». Сериал для детей (Англия).
**16.05** «5 x 5». Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.
**17.00** «Все мои дети». Сериал.
**18.00** Новости.
**18.15** Зона Икс.
**18.30** Гандбол. Чемпионат Европы. Мужчины. Беларусь - Эстония. Прямая трансляция. В перерыве (19.10) - Мультфильм для взрослых.
**20.00** «В фокусе и без». Народный артист Беларуси Александр Ткаченок.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.30** Событие.
**21.45** Спорт-курьер.
**22.00** Спонсор показа - фотомагазины Фокус-Кодак. «Лейтенант Хорнблоу». Сериал (Англия). Заключительная серия.
**23.00** Международный Французский Канал представляет: «Музыкальная програма для молодежи». 2-й выпуск.
**24.00** Новости.
**00.10** СТВ-24 часа.

---

**08.00** Новости.
**08.15** «Воздушные замки». Сериал.
**09.10** Приключенческий фильм «След Сокола».
**11.00** Новости.
**14.00** Новости.
**14.20** Зов джунглей.
**14.45** ...До шестнадцати и старше.
**15.30** Мультсериал «Покемон».
**15.55** Сериал «Воздушные замки».
**17.00** Новости.
**17.25** «Все путешествия команды Кусто».
**18.05** «Граф Монте-Кристо». 2-я серия.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** Комедия **«АЭРОПЛАН-2»**.
**22.15** «Тихий дом».
**22.45** Новости.
**23.05** Фильм **«РЕБРО АДАМА»**.

---

**08.00** Вести.
**08.15** Доброе утро, Россия.
**08.35** «Телепузики».
**09.00** «Мануэла». Сериал.
**10.00** Вести.
**10.30** «Санта-Барбара». Сериал.
**16.00** Вести.
**16.30** «Чародей. Страна Великого дракона». Сериал.
**18.00** «История любви». Сериал.
**19.00** Вести.
**19.30** Семен Альтов. «Обо всем!».
**19.50** Фильм-эпопея **«ВОЙНА И МИР»**.
**21.50** «Театр + ТВ».
**00.05** Звуковая дорожка.
**01.00** Прогноз погоды.

---

**07.05** Новости культуры.
**07.20** После новостей.
**07.40** **«ДОН КИХОТ»**. Худ. фильм.
**08.55** «Не суждено мне быть твоею перед богом...».
**09.45** «Кто разбудит аксолотля?». Док. фильм.
**10.35** **«СЕКРЕТНЫЙ АГЕНТ»**. Худ. фильм. 2-я серия.
**11.30** Новости культуры.
**11.40** «Большие надежды». Мультфильм.
**12.50** П.Васильев. «Посулила мне жизнь пороги ледяные...».
**13.30** Новости культуры.
**13.45** «Сказка о рыбаке и рыбке». Мультфильм.
**14.15** Док. фильмы.

